# Самапомач Гаспадарскі

Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс

Год VII. Вільня, Май 1938 г. № 5 (79).

*Аб чым піша «Самапомач»:*



Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул. 1.

# Страганярства

Аб страганярстве ці аб страганах гавораць у нас людзі ўжо больш-менш два-тры гады. Што гэта слова азначае, а што сапраўды за ім крыецца?

Страган — у даслоўным значэньні гэта рынечная будка для дробнага ў ёй гандлю. Новачаснае значэньне гэтага слова расшырылася да разуменьня яго як гандлю наагул; практычна-ж усё страганярства накіравалася да заахвочваньня беззямельнага і малазямельнага сялянства займацца гандлем і наагул жыць „з алаўком у руцэ“ — ці йнакш — да гаспадарскага пераўзгадаваньня найшырэйшых і найбольш упасьледжаных слаёў насельніцтва.

Магло-б з гэтага каму здавацца, што страганярства гэта добрая справа, вартая пазнаньня і насьледаваньня.

Так яно можа й было-б, калі-б страганярства не дасталася ў нас пад кіраўніцтва яўных і схаваных польскіх эндэкаў, якія самую думку страганярства з грунту выкрывілі: замест быць школай жыцьця, наша страганярства пад эндэцкім кіраўніцтвам сталася інструмантам расавае ненавісьці. І гэта зусім не выпадкова, а з выразным жаданьнем адвярнуць увагу ад сапраўдных балячак нашага жыцьця і ад спосабаў лячэньня іх.

Нікому не сакрэт, як вёсцы нашай сяньня дакучае малазямельле. Лякарства на гэту бяду знае кожнае дзіця: патрэбна тут парцэляцыя двароў і наагул усіх лішкаў зямлі. Аднак кіраўнікі страганярства аб зямельнай справе зусім маўчаць. Замест гэтага яны ўсім стараюцца ўгаварыць, што прычынай недастаткаў у нашай беларускай вёсцы ёсьць жыдоўскі гандаль ці прасьцей кажучы ўсяму быццам вінаваты жыды і таму іх быццам перад усім трэба згэтуль так ці гэтак высадзіць.

Пад шумок гэтак зразуменай „абароны ад жыдоўскага вызыску“ кіраўнікі страганярскага руху ўсё больш і больш прывозяць сюды рамесьнікаў і гандляроў польскіх. Адным махам забіваюць яны гэтак ня то што двух, але трох зайцаў: 1. у некаторых мясцох фактычна выганяюць жыдоў, узмацняючы іхным коштам у нас элемэнт польскі, 2. даюць працу польскім прыездным гандляром і рамесьнікам і 3 захоўвуюць ад парцэляцыі панскія, у 95 прац. польскія, у нас двары.

А што-ж з усяго гэтага астаецца нашаму малазямельнаму і беззямельнаму селяніну беларускаму?

Прыгледзьмася папарадку.

1. Выпіраньне элемэнту жыдоўскага. У імя чаго? У імя перабіраньня гандлю ў с в а е рукі? Згода! Але ці-ж можна рабіць гэта палкай, каменем, ілжой—і ўсё гэта ў імя гэтак званага „хрысьціянскага гандлю“, апёртага на звычайнай „перамозе“ — мацнейшага над слабейшым? — На кожным кроку вытыкаецца пры гэтым „несалідпасьць“ гандлю жыдоўскага. Дапусьцім, што і гэта здараецца. Але, працэнтова ўзяўшы, ці-ж не часьцей ужо сяньня гэта спатыкаецца ў гандлі як-раз няжыдоўскім? А што найважнейшае — ў што можа ператварыцца такі „хрысьціянскі“ гандаль на выпадак, калі

перастане яго награваць сяньняшняя оранжэрыйная атмосфэра? Аб тым-жа, якая „здабыча“ для нашага перанаселенага сяла з таго, што замест выцісьненага гандляра жыдоўскага сядзе прыездны гандляр польскі — гаварыць няма чаго.

2. Страганы як варштат працы для прыездных гандляроў ці рамесьнікаў польскіх: ясна, што тут карысьць толькі аднастароньняя і то выключна для тых-жа гандляроў і рамесьнікаў польскіх.

3. Захаваньне ад парцэляцыі двароў, густа расееных паміж беларускімі вёскамі: прыняўшы пад увагу малазямельле нашай вёскі, захаваньне ў цэласьці сумежных двароў гэта больш чым яўная некарысьць тэй-жа нашай вёскі.

Падсумоўвуючы ўсё сказанае аб страганярстве і ня ўходзячы тут у ацэнку ягонай тэорэтычнай вартасьці, трэба сказаць, што сягоньняшні спосаб уводжаньня яго ў нас у жыцьцё:

1. распальвае няведамы дагэтуль беларускаму сялянству процікыдоўскі настрой (антысэмітызм):

2. памагае асельвацца ў нас польскім гандляром і рамесьнікам, і што найважнейшае,

3. адварочвае ўвагу нашага беларускага сялянства ад натуральнае патрэбы безадкладнага правядзеньня зямельнай рэформы.

Ці ўсё гэта ёсьць у інтарэсе нашага беларускага селяніна, хай кожны скажа сам за сябе.



# Jak žyviecca ŭ Švecyi

Švecyja heta adna z najstarejšych dziaržavaŭ u Eŭropie, bo isnuje ŭžo kala 1.200 (tysiača i dźvieście) hadoŭ. Pałoža na jana na poŭnačy Eŭropy, na h. zv. Skandynaŭskim paŭvostravie, zajmaje prastor u 449.000 kv. klm Hranica Švecyi ciahniecca na prastory 9 817 klm., z jakich bolš 80 prac. idzie bieraham Bałtyckaha mora (na ŭschodzie i paŭdni), a rešta — sušaj: na zachadzie kala Norvehii i na poŭnačy kala Finlandyi. Usiaho nasielnictva ŭ Švecyi naličajuć tolki 6 mil. 200 tys. čałaviek, a znača na 1 kv. klm. ŭ siarednim vypadaje 14 čałaviek. Hetak redkaje zasialeńnie prastoru Švecyi tłumačycca tym, što vialikija prastory kraju zajmajuć łasy, hory, vaziory i mora. Ziamli prydatnaj pad pasieŭ (arominy) jość u Švecyi tolki 3.725 000 ha, što sastaŭlaje krychu bolš jak 8 prac. ahulnaha abšaru. Jašče mienšy pracent zajmajuć tut sienažaci i paśbiščy — 1.091 ha ci 2½ prac.

Lasy zatoje zajmajuć u Švecyi 60 prac. ahulnaha abšaru. Pazvalaje heta Švecyi być najbolšym u Eŭropie pradaŭcom usiakaha lesnaha matarыjału, jaki na ŭsich rynkach cenicca vielmi doraha. Druhim pavažnym pryrodnym bahaćciem Švecyi jość žaleznaja ruda, jakaja tak-ža ŭ vialikaj miery vyvozicca zahranicu. Kamienny vuhal tut taksama sustrakajecca, ale jaho nia tolki nia vyvoziać na prodaž zahranicu, ale jšče i kuplajuć.

Niedastatak čornaha vuhla švedy razumna zamianili „vuhlem biełym“, heta znača siłaj vady pry pomačy vodnych turbinaŭ. Hetak atrymali jany biazcennyja zapasy elektryčnaj enerhii, jakaja daje im nia tolki vyhodnaje aśviatleńnie, ale i nia mienš vyhodnuju pahonnuju siłu da roznych mašynaŭ u haspadarcy j fabrykach.

Vidać z usiaho hetaha, što pryroda nia była dla Švecyi lišnie ščodraj. A adnak kraj hety słyvie z vialikaha ŭva ŭsim dastatku. Dajšli da hetaha švedy praz pracu, pilnaść i aśvietu. Što heta nia pu-

# ВЫЛЯГАНЬНЕ ЗБОЖА

Сьцюдзёная сёлетняя вясна не карысная для расьліннасьці. А калі настануць раптоўныя ўпалы, дык усе расьліны пачнуць расьці вельмі шыбка. У гэткіх выпадках тканкі расьлінных клетак, шыбка растучы, не пасьпяваюць адзеравянець і таму бываюць тоненькія, гібкія і слабыя. Гэта даводзіць да таго, што расьліны такія, азімыя і яравыя, каласістыя і стручковыя, а нават канюшыны — вылягаюць. Зьявішча гэта агульна-ведамае і такое вылягшае збожа ніколі ня дасьць добрага ўраджаю, працэнт азадкаў у збожы бывае вялікім. Калі-ж выляганьне здарыцца прад красаваньнем, дык расьліны пачынаюць гніць і зусім прападаюць. Прад выплываньнем сільна палёгшае збожа найлепш скасіць і высушыць на сена. Тымбольш што на гэткім месцы ў тым-жа йшчэ годзе можна пасеяць на зялёную пашу ці на кішонку якую-небудзь мешанку, конскі зуб, кукурузу і г. д.

У кожным разе выляганьне збожа ёсьць шкодным:нішчыць а прынамся абніжае ўраджай і ўносіць непарадак у севазварот. З гэтае прычыны трэба канешна знаць прычыны гэтага выляганьня і да іх не дапускаць.

Як ужо сказана, выляганьне пагражае тады, калі збожа разьвіваецца вельмі хутка, а тканкі клетак не пасьпяваюць дзеравянець. Усё гэта памагае разрастацца зялёным, з прыроды сваей слабым часьцям расьліны, асабліва калі ў глебе шмат азоту, а мала фосфару і потасу, калі збожа было засеена густа, калі пагода трывае цёплая і сырая, калі само збожа расьце ў ценю дрэваў ці высокіх будынкаў.

З другога боку ў тых самых кліматычных і глебавых варунках адзін гатунак збожа вылягае, а другі — таго самага збожа — не вылягае. Гэта знача, што выляганьне ці невыляганьне збожа залежа ад ягонага гатунку. Таму перад засяваньнем збожа на глебе багатай на азот заўсяды бесьпячней пагнаіць яе ўгнаеньнямі фосфарнымі і паташавымі. Спосаб сяўбы на гэтулькі важны, што рэдка пасеенае збожа, да якога мае доступ сонца й паветра, асабліва-ж збожа пасеенае з сеялкі радкамі з поўначы на паўдзень, значна лепш умацоўваецца і пасьля не вылягае, чым гэта бывае з збожам засееным густа.

Часта аднак паміма ўсіх асьцярожнасьцяў збожа ўсё-ж апынецца загрожаным. Прадвесьнікам такой небясьпекі зьяўляецца празмернае загушчэньне

---

styja tolki słovy, vidać choć-by z zrazumiełych dla našaha čałavieka ŭradžajaŭ. I tak z adnaho hektara švedy źbirajuć: pšanicy*): 23 q (11), žyta — 19 q (11), jačmieniu — 18 q (12), bulby — 142 q (114), burakoŭ — 347 q (210).

Jašče bolšyja ślady vysokaj haspadarskaj kultury možna bačyć u haspadarskaj žyviołahadoŭli. Nie zvažajučy na tak mały pracent užytkovaj ziamli — arominy i sienažaciaŭ z paśbiščami nia całych 11 prac. — tady jak napr. u siańniašniaj Polščy adpaviedny pracent arominy i sienažaci z paśbiščami dasiahaje až ličby 66! — to adnak na 100 ha ziamli tut vypadaje: koniaŭ**) — 11 (15), skaciny — 61 (40), śviniej — 28, aviec — 10 (12).

Vysokaja kultura kraju vidać adnak nia tolki ŭ haspadarcy, ale i ŭ žyćci ahulnym. Formaj dziaržaŭnaha žyćcia Švecyi jość konstytucyjnaja monarchija: na čale kraju staić karol, jaki kiruje žyćciom u kraju pry pomačy dvupałatnaha parlamantu (byccam sojmu i senatu), vybiranaha na padstavie demakratyčnaha zakonu, h. zn. u vybarach: ahulnych, tajnych, roŭnych, biespasiarednych i praparcyjanalnych. Na kolki daśpieła tut hramadzianstva da demokratyčnych paradkaŭ, vidać z stałaści palityčnych pierakanańniaŭ: ad 1920 h. ŭładu ŭ kraju trymaje koalicyja (parazumleńnie) liberalnych partyjaŭ (socyjalistaŭ i sialanskich narodnikaŭ). Najsłabšymi-ž partyjami źjaŭlajucca tut kamunisty i monarchisty. Usie palityčnyja partyi ŭ Švecyi lehalnyja i majuć poŭnuju svabodu ŭ pastupańni. Na publičnaje sabrańnie tut nia treba nijakich dazvołaŭ: sabrać takoje sabrańnie moža kožny, a zamiest prośby ab dazvoł chopić zvyčajnaje paviedamleńnie palicyi. Lišnie dadavać, što j samyja sabrańni tut heta nie demahohičnyja łajanki ci pustyja abiacanki, a račovyja spravazdačy ci ahulnyja

*) ličby pobač u dužkach ( ) aznačajuć uradžaj taho-ž zboža ŭ Polščy.

**) ličby ŭ dužkach ( ) pobač aznačajuć lik adpaviedniaj žyvioły ŭ Polščy.

(уруненьне), пры чым збожа пераходзіць у сыты цёмна-зялёны колер, калівы становяцца тонкімі і таму гібкімі, слабымі. Гэта ўсё азначае, што набліжаецца небясьпека выляганьня. Каб да яго не дапусьціць раньняй вясной загусьцеўшая рунь барануецца цяжкімі баронамі, каторыя выцягваюць часьць расьлін з карэньнем; затое рэшта расьлін лепш укараняецца (грубее і мацнее), забесьпячаючыся гэтак прад выляганьнем. Чым гусьцейшая рунь тым мацней выбараноўваецца. На пульхных-жа глебах замест баранаваньня ў такіх выпадках стасуецца валаваньне цяжкім гладкім валам. Урэшце, калі збожа ўжо перарасло і яму пагражае выляганьне, дык адзіным ратункам ёсьць скошываньне вяршкоў збожа. Але гэта ўжо спосаб, для пачатачнікаў прынамся, рызыкоўны: касіць трэба высака і высьцерагацца, каб не пашкодзіць каласка, які знаходзіцца ўжо ў похве.

Усё гэта былі прычыны выляганьня нутраныя. Апрача іх бываюць яшчэ прычыны мэханічныя. Маем тут на ўвазе віхры, палучаныя з сільным дажджом. Калі няма надзеі на тое, што палёгшыя маладыя расьлінкі падыймуцца прад тым як пачнуць выплываць, дык іх трэба скасіць і высушыць на сена. Калі-ж збожа паляжа пасьля таго, як ужо адкрасуе (адцьвіце), дык яно ня дасьць, праўда, зярнят першага сорту (добра разьвітых, высьпеленых), але крыху зярнят горшага гатунку ўсё-ж дасьць.

Найменш шкодным ёсьць выляганьне прад самым жнівом. Калі зерне ўжо дасьпелае, дык збожа трэба зараз-жа скасіць, каб салома не загнілася, а ўраджай зярнят можа быць зусім добры.

*Паз.*

# Гаспадарскае рыбацтва

Рыбацтва, побач з паляваньнем, ніколі не ўважалася чамусьці ў нашага беларускага селяніна як заняцьце поўнавартаснае. На працягу вякоў улажыўся пагляд, што хто заняўся рыбацтвам, у таго гаспадарка будзе храмаць. Колькі ў гэтым было праўды за нашых дзядоў-прадзедаў — разьбіраць тут ня будзем. У кожным разе што было ўчора, таго няма сягоньня. „Учора“ гаспадарыў наш беларус на загоне шырэйшым, „сягоньня-ж“ягоныя патомкі гэты загончык падзялілі найменш на дзьве часьці, а што будзе „заўтра?“ Больш таго: шукаючы спосабу пражыцьця, чалавек наш сягоньня стараецца выкарыстаць на

---

narady; sabrańniaŭ ahitacyjnych, švedy nia znajuć, bo kožny z ich šmat čytaje i tamu maje vyrablenyja pahlady. Kali havorym ab čytańni, dyk treba zatrymacca ŭ kolkich słovach ab aśviecie ŭ švedaŭ naahuł. Abaviazak ahulnaha navučańnia isnuje tut zdaŭna i tamu niahramatnych tut niama. Pačynajuć vučycca dzieci ŭ hetak zvanych pradškollach. Pačatkavyja 7-mi klasnyja škoły jošć u kožnaj hminie, jakija tut značna mienšyja, čym hminy našy. Pa pačatkavych škołach tyja z dziaciej, jakija majuć być ramieśnikami ci astacca na ziemlarobskich haspadarkach, pavinny jšče davučvacca ŭ specyjalnych 2-hadovych škołach, prahrama jakich u kožnym vypadku asobnaja i dapasavanaja da paźniejšaha zaniaćcia haduncoŭ. Urešcie dzieła ahulnaha raźvićcia švedzkaj moładzi vialikaje značeńnie majuć narodnyja ŭniversytety.

Jak pašyrana ŭ Švecyi aśvieta, vidać z słoŭ adnaho švedzkaha dziejača, jaki zajaviŭ, što: „u nas hłuchaniemy i ślapy ŭmiejuć čytać i pisać. Siła našaj demakracyi ŭ tym, što našy masy majuć dostup uva ŭsie navukovyja ŭstanovy; naš urad i naša hramadzianstva abjaviła vajnu alkaholu“.

Aśvieta i kultura ŭ Švecyi heta nia pusty huk, ale istota samaha žyćcia. Prajaŭlajecca heta štodzień u adnosinach čałavieka da čałavieka: adzin druhoha aceńvaje tut pavodle taho, jak chto vykonyvaje svaje abaviazki ŭ adnosinach da dziaciej, baćkoŭ, susiedziaŭ i ŭsiaho hramadzianstva. U rezultacie hetaha na švedzkich viaźnicach vielmi časta vyvieśvajecca biełv ściah — znak što ŭ viaźnicy hetaj niama nivodnaha viaźnia. Pakražy ŭ Švecyi blizu niaviedamyja. Valizka pakinienaja na vahzale čakaje na svajho ŭłaśnika. Na vulicach stajać sotni roveraŭ, motocykletak, aŭtamabilaŭ i nichto ich nie čapaje. Zamkoŭ na haspadarskich budynkach niama — i jany niepatrebnyja.

Mylaŭsia-b adnak toj, chto dumaŭby, što hetki vysoki rovień etyčny pry-

свой спосаб кожную пядзю зямлі, карчуючы пасекі, заворываючы прыродныя сенажаці й пасьбішчы. Плошча ўрабляных грунтоў гэтак павялічваецца, але карысьць з іх найчасьцей не аплачвае ўложаных трудоў,з тае простае прычыны, што ня можна вымагаць, каб кожная глеба была прыгоднай пад плуг і барану. Што з прыроды празначана на сенажаць, лес ці пасьбішча, тое калі й даецца дастасаваць да вымогаў польнае гаспадаркі, дык вымагае значна большага ўкладу грошаў і працы, чым гэта можна зрабіць звычайным толькі плугам. Урэшце, пры найлепшым стараньні знайсьці вольны простор пад польную гаспадарку спатыкаюцца мясцы, якія дагэтуляшнімі спосабамі выкарыстаць ніяк не даюцца. Маю тут на ўвеце розныя падмоклыя, замкнёныя ў сабе катлавіны, на якіх ня можна залажыць ані сенажаці, ані пасьбішча, ані тымбольш лесу ці ворнага поля. Такія мясцы найчасьцей называюцца „няўжыткамі" а сапраўды гэта прыродныя мясцы пад закладаньне ставоў дзеля гаспадарскай гадоўлі рыбы, перад усім карпаў. Вымагае гэта пэўнага прыгатаваньня, аб якім рэчовы артыкул зьмясьціў анагдай Аўг. Ластоўскі ў Tyg. Roln."(№ 15—16). Уважаем дзеля таго за патрэбнае пазнаёміць з гэтым артыкулам і чытачоў „Самапомачы."

„...Вельмі часта здараецца — піша А. Ластоўскі — асабліва ў вёсцы скомасаванай, што не адзін гаспадар наракае на падмоклыя сенажаці, пасьбішчы, праз каторыя працякае ручаёк ці рэчка. Трэба над гэтым затрымацца і падумаць, якую карысьць можа даць гаспадару такая сенажаць або такая рэчка. І тады прыйдзе думка закладаньня меншых і большых ставоў, каб у іх пасьля гадаваць рыбу.

У нашых варунках найлепш гадаваць карпаў, бо яны хутка растуць і найлепш выкарыстываюць багацтва ставу. А да таго на карпаў даволі лёгка сягоньня знайсьці і купца. У ставы ўпускаецца („насаджваецца") маладыя карпы або аднагодкі, або двугодкі. Вага кожнага карпа-аднагодка бывае каля 25 грамаў (40 штук на 1 кілё), а вага карпа-двугодка выносіць 100—200 грамаў (на кілё 5—10 штук).

Матарыял рыбны (аднагодкі ці двугодкі, трэба купляць ужо ў пачатку красавіка і ў гэту-ж пару ўжо ўпускаць у ваду. Памятаць пры гэтым трэба, што толькі матар'ял куплены ў пэўнай саліднай фірме дае тавар здаровы і забясьпячае набыўца ад стратаў.

---

chodzie sam saboj. Nie! Na heta patrebna vychavańnie. I tamu kožnaje dzicia ad samaha ŭžo zarańnia maje starannuju apieku z boku ŭradu i samaŭradu. Dziciačyja sadki i achronki ŭ Švecyi pašyrany nia tolki ŭ haradoch, ale i pa vioskach. Kožnaja maci-švedka zusim spakojnaja za toje, što jejnaje dzicia budzie mieć zapeŭnieny dostup da aśviety i znojdzie pracu.

Ale švedy apiakujucca nia tolki dziaćmi — budučymi hramadzianami kraju: jany nia mienš ruplivyja i ab tych, jakich prycisnuŭ ciažar „siomaha kryžyka". Kožny šved. z miesta ci z vioski, kali jon konča 65 hod svajho žyćcia, maje zapeŭnienuju staraść, z boku taho samaha ŭradu i samaŭradu: idzie ŭ „Dom dla starych", dzie maje ŭsie vyhody, ab jakich naš čałaviek nia śmieje i padumać: śvietłyja, čystyja pakoi, supolnyja śviatlicy, radio, usie hazety, kino, sezonny teatr; kali patrabujuć adziežu, mohuć sabie vybrać koler i kroj. Jaduć 4 razy ŭ dzień. A prysłuha? U adnym takim „Domie" dla 450 asob, prysłuhi jość až 150 ludziej. Akramia taho kožny starac atrymoŭvuje jšče drobnuju sumu hrošaŭ na svaje raschody... Zrazumiełaja reč, što kožny, majučy hetak zabiaśpiečanuju staraść, pracuje česna i nie patrabuje kraści.

Žyćcio ludziej pracy ŭ Švecyi tak-ža ŭrehulavana. Rabotnik pracuje tut 8 hadzin u dzień; daŭžej pracavać nia možna. Ziemlarob pracuje ŭ dzień 10 hadzin. Ci heta budzie žnivo ci zima, pa 10 hadzinach pracy ziemlarob švedzki kančaje pracu, myjecca, pieraapranajecca i zajmajecca sportam, čytaje knižki, słuchaje radyja, jedzie ŭ kino ci teatr. Pry hetym pa hadzinach pracy ŭsie sabie roŭnyja: niama rožnicy stanu, a jość tolki rožnica vieku. Piaršynstvo ŭsiudy majuć staryja i małyja. Paza hetym usie sabie roŭnyja.

Ziamielnaje zakonadaŭstva Švecyi davoli ŭstarełaje, ale cikavaje. Reformy ziamielnaj u Švecyi dahetul nia było. Toje-ž, što dzie časam niešta ŭ hetym kirunku

Многа рыбных хвароб паўстае і з прычыны розных шкоднікаў, якія нападаюць (насядаюць) на карпа звонку: на скуру, на плыўкі, на жабры. Ад шмат якіх з гэтых шкоднікаў можна абараніць нарыбак, купаючы яго прад тым як упусьціць у стаў, у 2½ прац. растворы кухоннай солі (2½ кілёграма солі на 100 літраў пераваранай вады) у працягу 15—20 мінутаў. Высьцерагацца толькі пры гэтым трэба начыньня цынковага і цынкаванага. Найлепш рабіць гэта ў бочках ці цабэрках драўляных ці ў такіх-жа карытах. Рыбкі слабыя і неадпаведныя да гадоўлі, праўда, ад такой купелі згінуць, але лічыцца з гэтым ня можна, бо яны напэўна згінулі-б і ў ставе. Успомніць таксама трэба, што ў адзін стаў найлепш упускаць маладняк толькі аднаго гатунку, напр. толькі аднагодні, або толькі двугодні, а ня ўпускаць аднагодкаў і двугодкаў разам. Тымбольш ня можна ўпускаць у стаў такіх дросных рыбаў, як шчупак, а нават карась і — лін. Гэты апошні часам упускаецца дзеля паўнейшага выкарыстаньня пажыўнага багацьця ставу, але ня можна такіх ліноў пускаць шмат. Толькі ў ставох з праточнай вадой рэчнай, куды памімa адпаведнага забесьпячэньня жалезнай кратай усё-ж могуць часам з вадой пранікнуць такія дробныя дзікія рыбы, як акуні, плоткі, яжгуры і г. д. — радзяць, але толькі да карпаў аднагодкаў — упускаць і колькі аднагодніх шчупачкоў. У гэткім выпадку шчупакі, як мясажэрныя, вылаўліваюць і выядаюць рыбу дзікую, ня шкодзячы аднак ні ў чым маладым карпам і памагаючы лепш выкарыстаць стаў.

Вядучы гадоўлю карпа, трэба ўсё запісываць, ці йнакш — весьці дняўнік, упісваючы: колькі штук рыбкаў і якога веку ўпушчаны ў стаў, якая была агульная вага гэтых рыбкаў, скуль яны былі ўзяты і колькі яны каштавалі. Гэткія зацемкі можна рабіць у звычайным сшытку і яны могуць быць вельмі карысны.

Калі стаў вельмі зарос травой, і markнымі вадаростамі, дык ня трэба тады нават карпаў асобна дакармліваць. Сьцьверджана гэта было ў рыбнай гаспадарцы ў Варапаеве, Пастаўскага пав., дзе з упушчаных вясной 800 штук карпаў (нарыбку), не дакармліваных праз цэлае лета. увосені некаторыя з гэтых рыбаў дасягалі вагай да 3 клг.

Калі-ж гадаваныя карпы ўлету маюць быць кормленыя лубінам ці якой іншай пашай, дык стаў мусіць мець чы-

---

robicca, robicca tolki z volnaj ruki. Usia rešta majontkaŭ jak była ŭ rukach šlachty kaliś, tak znachodzicca i siahońnia, pierachodziačy z pakaleńnia ŭ pakaleńnie. Cikava adnak toje, što takaja ziamielnaja majemaść pierachodzić z baćki tolki na syna. Kali-ž u siamji niama syna, dyk tady majontak takoha haspadara pierachodzić na kaznu, jakaja jaho i parceluje. Umovy, na jakich kalonist atrymoŭvuje svaju parcelu, vielmi vyhodnyja: jon musić mieć hatoŭki tolki čaćviertuju čašć vartaści nabyvanaj kalonji (chutaru) i vykazacca ŭmieńniem haspadaryć. Heta proba ŭmieńnia palahaje na tym, što chutar addajecca spačatku byccam nie na ŭłasnaść, a tolki na 4-och-hadovuju probu. Kali za hetyja 4 hady kandydat vykaža, što haspadaryć umieje, dyk jon pakidajecca na chutary jak ułaśnik, pry čym rešta daŭhu raskładajecca na 40 hadoŭ, z apracentavańniem pa 3 prac. ŭ hod. I naadvarot, kali taki kandydat u hetym probnym časie nia sumieje vykazacca svaimi zdolnaściami da haspadaravańnia, dyk ad jaho chutar adbirajecca, a z zapłačanaj napierad ¼ vartaści chutaru adličajucca paniesienyja škody. Hetak zabieśpiačajucca švedy ad marnavańnia haspadarskaha dabra.

Mima ŭsio heta adnak, za prykładam inšych krajoŭ, i Švecyja siahońnia imkniecca ŭ ziemlarobstvie da samavystarčalnaści, a znača da padniaćcia vytvorčaści. Pry sučasnych formach vytvorčaści padniać jaje ŭžo ciažka. I tamu za apošnija dva hady viadziecca ŭ Švecyi akcyja, jakaja maje na mecie čym chutčej rasparcelavać majontki. Rachujuć pry hetym, što jak u inšych krajoch tak i tut chutarnaja haspadarka, u paraŭnańni z dahetulašniaj haspadarkaj bolšych i mienšych abšarnikaŭ, vytvorčašć ziemlarobskuju značna padvyša; nia tolki ŭ halinie žyviołahadoŭli, ale i ŭ vytvorčaści polnaj.

Hetak u ahulnych rysach pradstaŭlajecca žyćcio paŭnočnaj Švecyi, z jakoj biełarusy ŭ čas svajej poŭnaj niezaležnaści ŭtrymlivali žyvyja znosiny.

Jak chutka abarvanyja biaz našaj viny viazi spałučacca nanova?

*V. K.*

стае і цьвёрдае дно. У праціўным разе у балоцістым дне корм марна губляецца, бо рыба яго ня знойдзе.“

Гэтулькі аб фаховым прыгатаваньні і вядзеньні штучнага ставу паводле слоў успомненага аўтора. Дадаць да іх трэба, што рыбацтва ў нашых умовах жыцьця мае будучыню. Ім трэба толькі зацікавіцца. А тады і »няўжыткі“ могуць лёгка стацца капальняй дабрабыту.

А. К.

# Вясьняныя хваробы жывёлы

Па зіме жывёла наша часта выходзіць аслабленая і абяссіленая ад нястачы добрай пашы і ад таго, што цэлую зіму ня мела вольнага руху на чыстым паветры. Асабліва гэта шкодна для ўсякага маладняка, які западае на рахітызм (размякчэньне касьці), але шкодна яно і жывёле старшай, якая пры гэткіх варунках дастае ломкасьці касьцей; гэта й ёсьць прычына, чаму так часта вясной жывёла ломіць сабе ногі ці іншыя часьці з даўгімі касьцямі.

Звычайна ўсе запасы прызначаюцца ўзімку для кароў малочных. Коні ператрывалі зіму спачатку на канюшыне, сене, а пасьля—„як Бог даў“—на шчыра саламянай сечцы; пры канцы кармілі іх бульбаю, каб падмацаваліся перад самымі вясьнянымі працамі ў полі. Але ад бульбы коні хоць і гладзейшыя, то аднак слабейшыя, пры працы пацеюць, хістаюцца, ня маюць сілы. Гэткія і ім падобныя абразы спатыкаем у большасьці нашых перад усім дробных гаспадарак.

Усе цяпер чакаюць на тую хвіліну, калі можна ўжо выгнаць жывёлу на пасьбішча. Тут аднак, на выбоінах і выганах, пагражаюць жывёле новыя небясьпекі розных утаеных і яўных хваробаў, да якіх пасьля благой зімоўкі жывёла мае нахіл.

Гэтыя „вясьняна-сэзонныя“ хваробы маюць свой пачатак ня толькі ад лапчывага паяданьня раньніх сакавітых траваў (напр. нястраўнасьць, уздуцьцё, бягунка), але й ад напатканьня на пасьбішчы жыватвораў, каторыя ня раз маюць у сабе утоеныя, або й сусім яўныя хваробы. Гэтыя хваробы лёгка перакідаюцца на здаровую жывёлу, да якой ня мелі доступу, пакуль яна стаяла ў хляве.

Жывёла хворая пры гэтым, абнюхіваючы занячышчанае сваім калам пасьбішча ці йнакш датыкаючыся да жывёлы здаровай, заражае гэту апошнюю. Скаціна гэтак заражаецца сухотамі і крываўкай, авечкі — матыліцаю, коні — сапам (насацізнай), каростай, анэміяй, сьвіні —„крупамі“ (вуграватасьцю), чырвонкай, чумой (паморам), птушка—халераю.

**Нястраўнасьцю** (праносам) хварэе ў гэты час жывёла ня толькі ад раньняй травы на пасьбішчы, але на самае пасьбішча прыходзіць ужо хворая на бягунку ад зімоўкі на стухлым, сплесьнiўшым сене, зацьвіўшым аўсе, загніўшымі буракамі, морхваю, на гнілой, парослай бульбе, зялёныя расткі каторай маюць у сабе сільна атрутную салянiну. Таксама ад брагі і пракіслых жмыхоў хварэе жывёла на хранічную бягунку.

Каб усьцерагчы жывёлу ад вясьняна нястраўнасьці, трэба на пасьбішча выганяць спачатку на час карацейшы, дапаўняючы кармленьне ў хляве пашаю сухою. У выпадках злоснай (упартай) нястраўнасьці, памагае адвар маладых дубовых растоў (сучкоў) або емялы (дзьве прыгаршчы аднаго ці другога на кварту варатку); памагае таксама адвар з сушаных чарніцаў (афінаў) у прапорцыі аднэй прыгаршчы на літр варатку. Добра йшчэ, калі дадаюць да гэтага чарку водкі. Гэта порцыя для скаціны дарослай; порцыя для маладняка павінна быць адпаведна меншай. Пакуль жывёла лечыцца, яе трэба трымаць у хляве, выпускаючы толькі на абход па панадворку, але не па пасьбішчы, дзе яна магла-б далей есьці зялёную пашу.

Пры доўгатрываючай бягунцы ў старшай жывёлы трэба правераць адходы (кал), ці няма ў іх кароткіх (1—1 з паловай см) плоскіх рабачкоў. Гэта матылічнікі і жывёлу заражаную імі ня можна пускаць на супольнае пасьбішча, бо ад яе заразіцца рэшта жывёлы здаровай. Праўдападобнасьць матылічнікаў тым большая, калі жывёла пасецца на балоцістых ці толькі падмоклых пасьбішчах. Каб забясьпечыць жывёлу прад

матылічнікамі, ей падаецца прад выганяньнем быдлячая соль, якая забівае зародкі матылічнікоў яшчэ ў трыбусе.

Калі да бягункі далучаецца йшчэ кашаль, а сама жывёла хутчэй ці вальней худзее, дык можна падазраваць, што такая жывёла мае пачаткі сухотаў у страватраўчых ворганах. Гэткай жывёлы таксама ня можна пускаць на супольнае пасьбішча.

У кустох чакае на жывёлу крывапіўца клешч, які высасываючы з жывёлы кроў, уліває ей шкодніка піроплязму, ад каторай паўстае крывавая моч. Прыссаных кляшчоў ня можна вырываць сілком, бо гэта не паможа. Замест гэтага трэба тое месца дзе сядзіць клешч і яго самога памазаць бэнзынай ці нафтай, ад чаго клешч вылезе сам.

Вясной так-жа пашыраюцца сярод скаціны хваробы плоцевых органаў, бо ў гэту пару мясцамі йшчэ самапас гуляюць па стадах нікім некантраляваныя дармавыя стаднікі. Гэтыя „стаднікі,“ акрамя таго што псуюць правільную жывёлагадоўлю, заражаюць яшчэ кароў рознымі хваробамі, ад якіх гэтыя каровы пасьля становяцца бясплоднымі.

**Коні** — заражаюцца абнюхіваючыся і чыхаючы. З хворых штук на здаровыя перакідаюцца: насацізна (сап), золзы, кароста і інш. Трапляецца гэта так-жа пры выпадковым спраганьні чужых коняў дзеля супольных цяжэйшых працаў у полі. Перш чым рашыцца на такое спраганьне, трэба ўпэўніцца, ці суседаў конь не здраджае хваробы ў форме выпаданьня поўсьці на шыі, вісках і на лобе. Або ці з храпаў не выплывае (пры сапе) зеленкаватая маса, часам з дамешкай сьлядоў крыві. Памятаць пры гэтым трэба, што закон вымагае, каб аб выпадках сапу паведамляліся вэтэрынарныя ўлады (праз гміну ці праз паліцыю).

**Сьвіні** заражаюцца на выганах — пасьбішчах, агародах і ўсюды там, куды пранікаюць ходзячы самапасам. Найчасьцей заражаюцца „крупамі,“ паядаючы людзкі кал, у якім і знаходзяцца зародкі солітэра. Доказ гэта йшчэ адзін, што добрыя зацішкі (адходныя мясцы) гэта ня выдумка „гарадзкіх паноў,“ а канешнасьць здаровага жыцьця. Таксама заражаюцца сьвіні адна ад другой — чырвонкаю і чумой, ад якіх масава гінуць.

**Др. М. Ст.**

# Дзесяць прыказаньняў аб даеньні каровы

1. Кароўка гэта жывое стварэньне: добрае абходжаньне з ёй аблегчыць працу і запэўніць большую колькасьць малака.

2. Кароўка гэта жывая фабрыка, якая карыстаньнем дасканаліцца:

а) Трэба яе добра выдойваць! Дзякуючы добраму даеньню разьвіваецца вым'я і ўспамагаецца ягоная чыннасьць.

б) Добра выдойваючы, атрымоўваем клусьцейшае (тучнейшае) малако, таму што малако, якое выдойваецца з вым'я апошнім, мае ў сабе больш туку, чым малако выдойванае першым.

3. Трэба даіць добра, правідлова, спраўна:

а) Схапі вым'я ўсей рукой.

б) Пацiснуўшы добра вым'я, выцісьні малако.

в) Не забудзься ўцiснуць дэлікатна руку на гару ў вым'я.

г) Не перарывай даеньня, калі малако льецца з вым'я.

д) Не забудзься выдаіць малака да апошняй каплі.

е) Калі ты гатоў (гатова), дык пагладзь папрыяцельску кароўку.

4. Чыстасьць пры даеньні.

а) Трэба даіць толькі ў чыстае начыньне. Пасьля карыстаньня начыньне трэба добра вычысьціць, вымыць і схаваць ў месца, дзе няма пылу, мухаў і дзе шмат сьвежага паветра.

Дасканальнае выветрываньне начыньня гэта адзін з галоўных варункаў чыстасьці.

б) Трэба мыць рукі перад і падчас працы.

в) Трэба заўсяды быць чыста і практычна апранутым.

г) Трэба даіць чыстымі сухімі рукамі. Перад даеньнем вычысьціць на суха каровінае вым'я і свае рукі.

д) Зараз-жа пасьля даеньня трэба ўзяць малако з хлява і перацадзіць яго праз добрую цадзілку.

е) Бруд, які затрымліваецца на цадзілцы, трэба чысьценька сабраць і выкінуць, таму, што можа распусьціцца ў малацэ і забрудзіць яго. Самую цадзіл-

